# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№12 (247)

снежань 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### Беларуска стала мэрам Сані-Айлс-Біч у ЗША

Імігрантка з Беларусі Ларыса Свечын стала мэрам горада Сані-Айлс-Біч у штаце Фларыда. Згодна з афіцыйнымі вынікамі выбараў, яна на некалькі дзясяткаў галасоў абышла сваю канкурэнтку.

Старонка 3

### У КІЕВЕ Ў ГОНАР КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА ПЕРАЙМЕНАВАЛІ СКВЕР

Такое рашэнне было прынята 15 снежня большасцю дэпутатаў на пасяджэнні Кіеўскай гарадской рады.



"Сквер "Старадарніцкі – 1", на скрыжаванні вуліц Гродзенскай і Алмацінскай, перайменаваны ў гонар выбітнага беларускага публіцыста, юрыста, грамадскага дзеяча, змагара за незалежнасць Беларусі ад Расейскай імперыі Кастуся Каліноўскага", – паведаміў сакратар Рады Уладзімір Бандарэнка.

Паводле budzma.org




# ZBSB.INFO

## ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ЦЯПЕР МАЕ НОВЫ САЙТ

Як і раней, на нашым сайце можна аператыўна даведацца пра навіны з жыцця беларусаў і беларускіх суполак за мяжой, атрымаць анонсы важных падзей у беларускай эміграцыі і прачытаць пра важныя для беларусаў замежжа падзеі на Радзіме. І, вядома, таксама атрымаць інфармацыю пра бягучую дзейнасць Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Цягам некалькіх тыдняў сайт будзе працаваць у тэставым рэжыме.

Пакрысе будуць дадавацца новыя раздзелы – архіў нумароў бюлетэню "Беларусы ў свеце", "Бібліятэка Бацькаўшчыны", агляды папярэдняй дзейнасці, справаздачы са З'ездаў беларусаў свету, кантакты суполак і г.д.

Мы спадзяемся, што новы сайт будзе зручным у карыстанні і паспрыяе яднанню раскіданых па свеце беларусаў і беларусак.

**НЕ ВАЙНЕ!** **ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ**

**кніга**

# УСПАМІНЫ АНАТОЛЯ ЗАНКОВІЧА – НОВАЯ КНІГА “БІБЛІЯТЭКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ”

У серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” папаўненне – кніга ўспамінаў 97-гадовага амерыканскага беларуса-хірурга Анатоля Занковіча “Лёс беларуса: паміж Эўропай і Амэрыкай”.

Мемуары апісваюць жыццёвы шлях нараджэнца Вілейшчыны, які прайшоў праз Другую сусветную вайну, страціў двух братоў і сястру, быў вымушаны пакінуць бацькоў і Бацькаўшчыну і шукаць магчымасці ўладкавацца на Захадзе. На старонках кнігі чытача чакаюць вайсковыя падзеі, палон, навучанне ў Нямеччыне і Бельгіі, прафесійная праца і сямейнае жыццё ў ЗША і доўгачаканыя сустрэчы са сваякамі праз дзесяцігоддзі.

Кніга пабачыла свет у Беластоку, выдавец – Фонд Kamunikat.org.

ЗБС “Бацькаўшчына”




# КНІГА ЕВЫ ВЕЖНАВЕЦ “ПА ШТО ІДЗЕШ, ВОЎЧА?” ВЫЙДЗЕ ПА-НЯМЕЦКУ




Пра выхад кнігі Евы Вежнавец “Па што ідзеш, воўча?” на нямецкай мове паведамляе выдавецкая ініцыятыва “Пфляўмбаўм” на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

“Здагадваецеся, што гэта? Так, гэта вокладка кнігі “Па што ідзеш, воўча?” Евы Вежнавец, якая выйдзе ў аўстрыйскім выдавецтве Paul Zsolnay у лютым 2023 года. З беларускай на нямецкую мову твор пераклала Ціна Вюншман (Tina Wünschmann)”, – напісана на старонцы выдавецкай ініцыятывы “Пфляўмбаўм”.

Паводле budzma.org

**in memoriam**

## Ганна Сурмач: У ВЯНОК ПАМЯЦІ АЛЕГА ГУЛАКА

Сумная вестка з Беларусі. Сяджу дома, хварэю на ковід, і без таго не найлепшы настрой. А тут гэтая нечаканая навіна – памёр Алег Гулак. Меў усяго 55 гадоў, мог яшчэ шмат зрабіць для беларускага грамадства. Вядомы праваабаронца, з 1996 года ён працаваў у Беларускім Хельсінкскім камітэце, а з 2008 года быў старшынёй гэтай праваабарончай арганізацыі. Як грамадскі абаронца ўдзельнічаў у сотнях судовых працэсаў і грамадскіх дзеяннях па абароне правоў асобаў, якія сталі ахвярамі парушэння правоў чалавека ў Беларусі. У 2016 годзе атрымаў прэмію ў сферы правоў чалавека і законнасці ад міністэрстваў замежных справаў Францыі і Нямеччыны.

Праваабарончая дзейнасць у сённяшняй Беларусі адна з самых небяспечных. Калі не трапіш у турму, дык страціш здароўе ад стрэсаў і негатыўных эмоцыяў, напружанай працы і адчування пастаяннай небяспекі.

Пазнаёмілася асабіста з Алегам толькі сёлета ўлетку, калі ён прыехаў у Нью-Ёрк пад час візіту Маргарыты Ляўчук. Яны разам наведалі наш Беларускі цэнтр у Брукліне, дзе адбылася прыемная сустрэча з гэтымі выбітнымі асобамі. Алег падышоў да мяне і неяк вельмі па-сяброўску прывітаўся. А потым запытаўся пра майго сына Алеся. Я зусім не ведала, што яны добра знаёмыя, а нават і сябры. Мой сын мае такі характар, што раскажа толькі пра тое, пра што запытаюцца, а я не магла падумаць запытацца. Аказалася, што на пачатку двухтысячных, калі Алег прыязджаў у Амерыку, яны з Алесем разам працавалі, зараблялі грошы і бавілі шмат часу разам. У іх склаліся добрыя адносіны, і цяпер яны абодва былі радыя сустрэцца. Я звяла іх па тэлефоне.

Гэты раптоўны адыход Алега ў вечнасць прынёс вялікі смутак і ў нашу сям’ю. Ад нас выказваем шчырыя спачуванні родным і блізкім сп. Алега і ягоным паплечнікам у барацьбе за абарону правоў чалавека, якія жорстка ўтоптвае ў гразь ашалелы дыктатарскі рэжым.

Светлая памяць светламу чалавеку!

Ганна Сурмач, bielarus.info

**каляндар**

# ВЫЙШАЎ “БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР-2023”. МАЛЮНКІ І СЛОВЫ НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

5 прычын, каб яго набыць

Грамадская кампанія “Будзьма беларусамі!”, Міжнародны саюз беларускіх пісьменнікаў і фонд Kamunikat.org выдалі “Беларускі каляндар-2023” з малюнкамі і словамі на кожны дзень. Цяпер беларусы замежжа, нават знаходзячыся за тысячы кіламетраў ад радзімы, могуць лёгка замовіць сабе беларускі каляндар. І мы налічылі ажно 5 прычын, чаму варта гэта зрабіць.

### 1. Дапамагае вучыць беларускую мову

Каляндар – сапраўдная скарбонка сакавітых, адметных беларускіх слоўцаў, дбайна падабраных руплівымі выдаўцамі. Тэмы самыя розныя: тут і назвы раслінаў і жывёл, назвы інструментаў, прадметаў вопраткі, мэблі, прыродных з’яваў... Нават добрыя знаўцы беларускай мовы знойдуць нешта цікавае для сябе.

### 2. Дорыць добры настрой

Калі падаецца, што ўсё ў жыцці змрочна і настрою зусім няма, пагартайце хвілінку “Беларускі каляндар”. Яскравыя і пазітыўныя малюнкі дапамогуць падняць настрой.

### 3. Дапамагае планаваць свой час

Гэта функцыя любога календара. Уласна кажучы, для таго яны і ствараныя. Але ж куды прыемней планаваць, карыстаючыся прыгожым календаром на роднай мове.

### 4. Прыемны ранішні рытуал

Новы дзень – новае слова і новы малюнак. Чаму б не пачынаць сваю раніцу з таго, каб глянуць на беларускі каляндар і даведацца, якое слова выдаўцы абралі для гэтага дня? Паспрабуйце! Упэўненыя, многім такі рытуал прыйдзецца даспадобы.

### 5. Шыкоўны падарунак на Новы год і Каляды

Зімовыя святы ўжо хутка. Самы час падумаць пра падарункі. Калі вы яшчэ не вызначыліся, каму што падарыць, то вось вам падказачка: “Беларускі каляндар” – самы што ні на ёсць універсальны падарунак, які падыдзе для сяброў, для калег, бацькоў, школьнікаў... І нават зусім маленькім дзецям спадабаецца разглядаць каляровыя малюнкі. А галоўнае – гэта падарунак з беларускім характарам!

**Замовіць каляндар** з магчымасцю дасылкі **ў розныя краіны** свету можна на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Камунікат **па qr-кодзе альбо праз e-mail** shop@kamunikat.com.



навіны

# БЕЛАРУСКА СТАЛА МЭРАМ САНІ-АЙЛС-БІЧ У ЗША

Імігрантка з Беларусі Ларыса Свечын стала мэрам горада Сані-Айлс-Біч у штаце Флорыда. Згодна з афіцыйнымі вынікамі выбараў, яна на некалькі дзясяткаў галасоў абышла сваю канкурэнтку.



У якасці мэра Ларыса Свечын абяцае палепшыць інфраструктуру горада, у тым ліку заняцца рамонтам дарог і інвеставаць у перадавыя распрацоўкі ў сферы бяспекі. Таксама новаабраны мэр будзе працаваць для стварэння "бяспечных месцаў для дзяцей, пажылых і маладых людзей", у прыватнасці яна паведаміла, што кам'юніці мае патрэбу ў "спецыяльным патрулі на пляжы". Акрамя гэтага, палітык абяцае стварыць спартовыя комплексы для дзяцей і моладзі, а таксама вялікі парк для сабак.

Пад кіраўніцтвам новага мэра працэс атрымання пасведчання асобы рэзідэнта стане спрошчаным. "Урад павінен лепш працаваць на нас!" – кажа спадарыня Свечын.

Ларыса Свечын – імігрантка з Беларусі, з Гомеля, маці 4 дзяцей, не па чутках ведае аб праблемах імігрантаў у Паўднёвай Флорыдзе, асабліва – выхадцаў з СНД і былых рэспублік СССР.

Паводле slavicsac.com

# СВЯТЛАНА ЦІХАНОЎСКАЯ ПАПРАСІЛА ПРЭМ'ЕРКУ ФІНЛЯНДЫІ ПЕРАЙМЕНАВАЦЬ БЕЛАРУСЬ

Дэмакратычная лідарка Беларусі падчас свайго візіту ў Фінляндыю сустрэлася 13 снежня з прэм'ер-міністаркай Санай Марын, прачытала лекцыю ў Фінскім інстытуце міжнародных адносін (FIIA) і правяла брыфінг для дыпламатаў.

З прэм'ер-міністаркай Фінляндыі Ціханоўская абмеркавала сітуацыю з палітвязнямі і ўмовы ў турмах, а таксама тое, якім чынам міжнародная супольнасць можа дамагчыся іх вызвалення.

Беларуская лідарка папрасіла падтрымаць рэпрэсаваных – многія пачынаюць выходзіць з турмаў, і ім патрэбна рэабілітацыя, паведамляе яе прэс-служба.

Пасля мінулага візіту Фінляндыя выдзеліла дапамогу беларускім праваабаронцам і студэнтам. Ціханоўская падзякавала прэм'ерцы і папрасіла



аказваць дапамогу грамадзянскай супольнасці.

Таксама абмеркавалі ролю рэжыму ў вайне. Ціханоўская адзначыла, што рэжым Лукашэнкі нясе поўную адказнасць за тое, што ўцягвае ў вайну ўсю краіну, і заклікала Фінляндыю выступаць у падтрымку беларускага суверэнітэту і патрабаваць вываду расійскіх войскаў не толькі з Украіны, але і з Беларусі. Ціханоўская сказала, што для дэмакратычных сіл у прыярытэце не дапусціць гэтага. Яна папрасіла не закрываць дзверы для беларусаў, якія шукаюць бяспечны прытулак у краінах Еўрасаюза.

Таксама беларуская лідарка папрасіла разгледзець магчымасць перайменавання Беларусі ў Фінляндыі: цяпер у фінскай мове Беларусь называюць "Белай Расіяй" (калі ў перакладзе). Перайменаванне, на яе думку, акрамя ўсяго іншага, было б правільным сігналам беларускаму народу.

Пасля Ціханоўская выступіла ў Фінскім інстытуце міжнародных адносін (удзел у сустрэчы ўзялі каля 100 экспертаў, афлайн і анлайн) і выступіла перад пасламі 17 краін, акрэдытаваных у Фінляндыі.

novychas.online

# ХАДАНОВІЧ АТРЫМАЎ МЕДАЛЬ ПАДЗЯКІ ЕЎРАПЕЙСКАГА ЦЭНТРУ САЛІДАРНАСЦІ

Узнагароду беларускаму паэту і літаратуразнаўцу ўручылі ў Гданьску.

Медаль уручаецца людзям, якія спрычыніліся да аднаўлення вольнай Польшчы – выбітным інтэлектуалам, дысідэнтам, палітыкам, журналістам, творцам. Медалём Падзякі таксама ўганароўваюцца тыя, хто ў духу ідэалаў Салідарнасці абараняюць усеагульныя правы чалавека, прасоўваюць ідэі Салідарнасці, працуюць на карысць паразумення паміж народамі, адстойваюць маральныя і сацыяльныя каштоўнасці.

budzma.org паводле Беларускага ПЭНа

# Анджэй Дуда: БІТВА ЗА СВАБОДНУЮ БЕЛАРУСЬ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Прэзідэнт Польшчы заявіў, што яго краіна хоча межаваць са свабоднай і незалежнай Беларуссю.

"Мы падтрымліваем і будзем падтрымліваць вас у вяртанні свабоднай, суверэннай, незалежнай радзімы. Але пакуль гэтага не здарыцца, заўсёды будзем рады вас бачыць у нас", – заявіў прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда на сустрэчы са Святланай Ціханоўскай і беларускай грамадскасцю.

Польскі прэзідэнт падкрэсліў, што "бітва [за свабодную Беларусь] працягваецца". "І ў нас, палякаў, якія маюць свой гістарычны досвед, ёсць глыбокая вера ў тое, што яна скончыцца перамогай беларусаў – тых сапраўдных, якія хочуць [мець] свабодную суверэнную дзяржаву", – падкрэсліў лідар Польшчы.

Дуда выказаў надзею, што ў будучыні на польска-беларускай мяжы "не будзе ніякай сцяны".

novychas.online паводле "Позірк"



Каляды

# КАЛЯДЫ НА КАФЕДРЫ БЕЛАРУСІСТЫКІ ВАРШАЎСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА

Святочная сустрэча адбылася 21 снежня і працягнула колішнюю кафедральную традыцыю: студэнты і выкладчыкі ў нефармальнай і сяброўскай атмасферы спаткаліся напярэдадні Раства Хрыстова. Падрыхтавалі не толькі калядныя прысмакі, а і адмысловую музычную праграму. "Радыё Унэт" пабывала на сустрэчы і занатавала самыя цёплыя яе моманты.




Спатканне не толькі святочнае, а і інтэграцыйнае. Многія з маладых людзей убачыліся ўпершыню. Студэнты розных курсаў мелі магчымасць пазнаёміцца і паразмаўляць у святочнай і нязмушанай атмасферы, якую самі ж і стваралі. Прывітаў беларусістаў загадчык кафедры, прафесар Радаслаў Калета.

"Я вельмі рады, што ёсць такая калядная сустрэча. Я цешуся, што моладзь мае жаданне арганізоўваць такія імпрэзы. Бо варта пазнаваць і польскія, і беларускія традыцыі. Традыцыі іншых краін".

Для радыё Унэт Радаслаў Калета ўзгадаў таксама гісторыю кафедры і змены ў складзе студэнтаў за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў.

"Кафедра ўзнікла ў 1956 годзе, і спачатку гэта былі пераважна студэнты з Падляшша. Потым сітуацыя крыху змянілася, і на кафедру сталі прыходзіць палякі, якія вывучалі беларускую мову з нуля. Цяпер жа ў Польшчы мы назіраем вялікую хвалю эміграцыі, і да нас прыйшлі беларусы".

Вынікамі года падзялілася кандыдат філалагічных навук Вольга Трацяк.

"Гэты год быў вельмі цікавы. Перад намі былі новыя выклікі і новыя патрабаванні да арганізацыі праграмы навучання. Сёлета на першы курс да нас паступіла 10 беларусаў, і гэта – феменальная з'ява. Што пажадаю студэнтам? Не спыняцца на шляху да беларушчыны. Хай гэта будзе маё ім хатняе заданне на Каляды".

З каляднымі пажаданнямі да студэнтаў звярнуўся і Марыюш Каліньскі. Сёлета ён паступіў у дактарантуру Варшаўскага ўніверсітэта і ў наступным семестры будзе выкладаць свой першы курс лекцый на кафедры беларусістыкі. Марыюш – адзін з ініцыятараў каляднага спаткання.

"Жадаю студэнтам, каб яны выкарыстоўвалі кожную хвіліну, якую маюць. У жыцці вельмі рэдка бывае, калі мы можам засяродзіцца на вучобе. Гэта сапраўды бясцэнны час. Раю не баяцца быць смелымі і рабіць вельмі адважныя крокі ў жыцці. Ісці сваім шляхам і дбаць пра сваю індывідуальнасць. Не ісці за натоўпам, а ісці сваёй дарогай".

Кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта – адзіная па-за межамі Беларусі, дзе можна атрымаць вышэйшую адукацыю па спецыяльнасці "беларуская філалогія". Ад нядаўняга часу ў дыпломе еўрапейскага ўзору з'явіўся допіс – з англійскай мовай. У якасці факультатыўнай маладыя людзі могуць вывучаць і гішпанскую. Яе выкладае кандыдат філалагічных навук Анхела Эспіноса Руіс. Каляды яна сустрэне са сваёй сям'ёй, паляціць у Малагу. І ўсё ж за дзень да ад'езду знайшла час павіншаваць са святамі і беларусістаў.

"У Гішпаніі Каляды – гэта вельмі сямейнае свята. А вось Новы год мы сустракаем ужо кампаніямі, з сябрамі. Вельмі хочацца, каб чарговае падарожжа вакол сонца было для ўсіх нас пладавітым і прыемным. А нечаканых сюрпрызаў няхай больш не будзе".

Чарговая іх сустрэча адбудзецца ўжо толькі ў новым, 2023 годзе. У Варшаўскім універсітэце надыходзіць час калядных вакацый, пасля чаго студэнты і выкладчыкі вернуцца да навучальнага працэсу і падрыхтоўкі да зімовай сесіі.

radiounet.fm

# У МІНЕСОЦЕ АДЗНАЧЫЛІ КАЛЯДЫ З ЗОРКАЙ, КАЗОЙ І ЛЯВОНІХАЙ




У Амерыканскім штаце Мінесота адсвяткавалі Каляды. У лепшых беларускіх традыцыях: з зоркай, казой, песнямі, танцамі.

Арганізатарамі выступілі дыяспара беларусаў у Мінесоце і аб'яднанне "ГосьЦі".

Для таго, каб адсвяткаваць Каляды як след, у госьЦі запрасілі этна-музыку, спевака, фальклярыста Сержука Доўгушава. Сяржук паказваў, як нашы продкі адзначалі свята, і як гэтыя традыцыі могуць працягнуць беларусы сёння. Нават за тысячы кіламетраў ад родных ніў, ад роднай хаты.

У гэты дзень Амерыка пачула беларускія традыцыйныя песні, пабачыла калядныя гульні, танцы, абрады. Для таго, каб усім было не толькі весела, але і смачна, кожная сям'я згатавала ўлюбёную беларускую страву для агульнага стала.

Важнай часткай праграмы стаў аўкцыён падарункаў. Атрыманыя сродкі былі перададзеныя на падтрымку рэпрэсаваных беларускіх дзеячоў культуры.

Кажуць, калі на Каляды загадаць жаданне, то яно абавязкова здзейсніцца. Беларусы Мінесоты шчыра вераць, што настане час, калі Беларусь заззяе яскравай новай зоркай.

Паводле прэс-рэліза

Каляды

# БЕЛАРУСЫ НЬЮ-ЁРКА ВЫРАЗАЛІ ВАСЬМІКАНЦОВЫЯ "АЎСЫКЛІСЫ"

"Беларуская выцінанка – гэта форма мыслення", – кажа мастачка Вольга Бабурына-Палуніца.




Творца зрабіла незвычайную выставу ў Грамадскай зале сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. Мастачка з Беларусі стварыла праект выцінанкі валадароў Вялікага Княства Літоўскага. Разам з тым у нядзелю 18 снежня яна правяла майстар-клас для ўсіх прысутных і распавяла пра старадаўнюю гісторыю папяровай творчасці ў Беларусі.

Займаецца выцінанкай Вольга Бабурына больш за 30 год. Мастачка каля 10 гадоў кіравала секцыяй выцінанкі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Брала ўдзел у праектах і выставах, дзе прадстаўляла Беларусь у міжнародных конкурсах. Тры гады назад Вольга ўступіла ў амерыканскую гільдзію выразлыўшчыкаў з паперы. Летась мастачка пераехала па палітычных матывах у ЗША.

"Мая маці выразала прыгожыя сняжынкі да Калядаў на вокны, на адзенне. Таксама яна ўпрыгожвала старыя іконы, аздабляючы іх папяровымі кветкамі. У кветках яна таксама рабіла выцінанкі. На маім шляху таксама трапілася цудоўная выкладчыца з мастацкай дзіцячай школы з Маладзечна Вікторыя Мікітаўна Чырвонцава, якая паказала мне "азы" выцінанкі. Цяпер выцінанку на міжнародным узроўні прасоўваю я", – распавяла пра сябе мастачка.

Вольга стварыла ў Беларусі адзіны музей выцінанкі ў Валожынскім раёне. А ўвогуле, паводле яе слоў, гэтаму мастацтву ў Беларусі больш за 1000 год. Таксама існуе такі музей у Польшчы, у Даніі, два музеі ва Украіне, адзін у ЗША ў Піцбургу.

"Ужо вядома, што ў IX-XII стагодзях на тэрыторыі сучаснай Беларусі на адзенні жанчыны выразалі дзірачкі, якія неслі абярэжна-ахоўныя функцыі. У шляхецкім асяроддзі была традыцыя сілуэтнага выразання, якая прыйшла з Заходняй Еўропы. Потым гэта перацякло ў народныя традыцыі. Выцінанка была пашырыная сярод габрэяў. У XVI стагоддзі пачалі рабіць сургучовыя пячаткі, пад якія рабілі выразкі з паперы – кустодзіі. Гэта таксама выцінанка", – коратка расказала для прысутных Вольга.

Пасля кароткага знаёмтсва Вольга правяла майстар-клас, у якім удзельнічалі як жанчыны, так і мужчыны. Яна раздала ўсім прысутным нажніцы і тонкія паперкі, каб кожны ахвочы мог паспрабаваць сябе ў якасці мастака. Разам з Вольгай прысутныя рабілі васьміканцовую зорку "Аўсыкліс", якая мае ахоўную функцыю і была пашыраная сярод балцкіх плямёнаў на тэрыторыі даўнейшай Беларусі.

Асаблівыя "Аўсыклісы" атрымаліся ў мужчын. Адзін з іх, Зміцер Левіт, адзначыў, што апошні раз выразаў з паперы ў дзяцінстве, калі ўпрыгожвалі хату да Калядаў і Новага года.

"Памятаю, у дзяцінстве выразаў сняжынкі і потым з мамай клеілі іх на вокны. Неяк успомнілася гэта сёння. І сумна, і радасна адначасова", – адзначыў Зміцер Левіт.

Праект выцінанкі "Валадары ВКЛ" быў распрацаваны Вольгай супольна з Паўлам Бераговічам і Уладзімірам Арловым, які параіў гістарычных асоб для выцінанак Вольгі.

Ёсць у мастачкі і іншыя працы для выстаў, але для Нью-Ёрка яна абрала менавіта гістарычную тэму.

Акрамя гэтага Вольга пасля выразання раздала прысутным афірмацыйныя карты з выцінаначнымі малюнкамі. Прысутныя павінны былі распавесці пра свае пачуцці ад сённяшняга дня згодна з малюнкам на картах. Такія карты выкарыстоўваюцца ў сучаснай псіхалогіі.

Для дзяцей адбыўся асобны святочна-смачны майстар-клас, дзе яны ўпрыгожвалі печыва да Раства Хрыстовага і Новага года. Пра гэта паклапацілася Таццяна Красоўская, якая прынесла адмыслова для гэтага імбірнае печыва.

А яшчэ дзеці маглі пагуляць і пасваволіць, а таксама паслухалі чароўныя казкі ў незвычайнай атмасферы царквы, якія пры нняркім святле чытаў на беларускай мове Міхал Чаропка.

Незвычайную выставу арганізавала БАЗА пад кіраўніцтвам Аксаны Пятрашкі, старшыні Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі.

Частку сваіх выцінанак Вольга Бабурына-Палуніца прадае, а яшчэ праводзіць майстар-класы, да якіх можна далучыцца праз Zoom.

Выстава будзе дзейнічаць у Нью-Ёрку да 5 студзеня. У мастачкі ўжо ёсць планы ў іншых гарадах Амерыкі.

**Алесь Пазьняк, bielarus.info**

# МАЛЯВАНЫЧ У БАТУМІ. ЯК ПРАЙШЛО НАВАГОДНЯЕ СВЯТА ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ БЕЛАРУСАЎ

30 снежня ў шматфункцыянальнай прасторы «Аксяродак» прайшло дзіцячае мерапрыемства "Дзе жыве Новы Год". Яго вядоўца, акцёр Аляксандр Ждановіч (таксама вядомы як Маляваныч) распавёў дзецям пра калядныя традыцыі ў розных краінах свету, у тым ліку Грузіі.

Найбольш цікавай была пастаноўка батлейкі пра цара Ірада і нараджэнне Ісуса Хрыста. У батлейцы бралі ўдзел і дзеці: адзін хлопчык граў Ірада, пакуль іншыя дзяўчаты білі і ў бубны.

У пастаноўцы паказаныя чалавечыя заганы, барацьба дабра са злом. Усё гэта суправаджаецца спевамі анёла ў выкананні Маляваныча. У выніку перамагае дабро, на свет з'яўляецца Божы сын, што дае надзею на лепшае жыццё.

**Ганна Бурштын, budzma.org**



навіны

# Беларускі аўтапрабег у Літве: ад Лукішскай плошчы да форта Космаса

Беларускі аўтапрабег у Літве прайшоў у суботу. Калона з апазнавальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі праехала па цэнтральных вуліцах Вільні і рушыла да беларускай мяжы. Там ля пункта пропуску "Каменны Лог – Мядзінінкай" ужо паўтара года існуе беларускі форт – у маленькай хацінцы тут жыве бадай самы вядомы выканаўца песні "Муры" Сяргей Космас. Беларусы Вільні прыехалі яго падтрымаць.




Спачатку ўдзельнікі аўтапрабегу наведалі знакавыя месцы Вільні, звязаныя з Кастусём Каліноўскім: Лукішскую плошчу, дзе ён быў пакараны, і капліцу на могілках Росы, дзе пахаваныя парэшткі Каліноўскага і іншых паўстанцаў 1863 года.

Пасля калона рушыла "на Мінск", насамрэч да беларускай мяжы, да пункта пропуску "Мядзінінкай – Каменны Лог". На шляху пастаянна траплялiся дарожныя ўказальнікі, якія паказвалі, колькі кіламетраў засталося да беларускай сталіцы, і таму было такое ўражанне, што калона аўтамабіляў з бел-чырвона-белымі сцягамі рухаецца на Мінск.

Наталля Калегава, кіраўнік арганізацыі "Дапамога", ініцыятар акцыі:

"Насамрэч мы заўсёды імкнемся падтрымаць людзей, якія ўнутры краіны змагаюцца з дыктатурай, няхай ціха, партызанскімі метадамі, але гэта ёсць. І другое, падтрымаць нашых хлопцаў, якія ва Украіне. 19 снежня мы ведаем, што Пуцін збіраецца ехаць у Мінск, і гэта можа стаць ключавым пунктам, які паверне ход падзей. Вельмі шмат новых людзей прыйшло, якія яшчэ пару тыдняў таму былі ў Беларусі пад пераследам, а зараз яны ў Літве і на волі, для іх важна адчуць, што беларусы не здаюцца.

Мы зараз ля беларускай мяжы. Пачалося ўсё з чэрвеня 2021 года, калі мы тут блакавалі трасу супраць гандлю з Беларуссю. І з таго часу Сяргей Космас застаўся тут жыць. Ён зразумеў, што гэта яго місія. А наша справа – толькі падтрымаць яго маральна і часам матэрыяльна".

І сапраўды, форт Космаса на мяжы не заўважыць цяжка: паўсюль бел-чырвона-белыя сцягі, надпісы, зразумелыя ўсім беларусам, і пастаянна хтосьці спыняецца. Падчас нашага наведвання літоўцы нам расказвалі, што "беларускі прусак ужо ўсіх дастаў, і трэба яго як мага хутчэй скінуць".

Паўтара года таму Сяргей Космас, бадай самы вядомы выканаўца "Муроў", вырашыў пасяліцца паблізу мяжы і называе гэта сваім пратэстам.

Космас: "Я хацеў падтрымаць людзей, якія знаходзяцца ў турмах Беларусі. Я, калі з'ехаў, вельмі доўга перажываў і зараз перажываю, што нічога не магу зрабіць, каб выцягнуць людзей з вязніц. Я кожную дубінку, якая трапляла па чалавеку, адчуваў на сабе. Гэта мая акцыя тут на мяжы. Калі чалавек пераязджае праз мяжу і бачыць тут бел-чырвона-белыя сцягі, гэта стварае такі эфект, што нібыта ты выехаў з цемры ў свята. Людзі спыняюцца, і ў іх слёзы на вачах".

Рэакцыю беларусаў на бел-чырвона-белы сцяг я ацаніла на ўласным прыкладзе: разам з двума ўдзельнікамі аўтапрабегу мы вырашылі падысці як мага бліжэй да беларускай мяжы. І адзін з хлопцаў нёс сцяг на дрэўку.

Тыя, хто ўязджаў з тэрыторыі Беларусі ў Літву сігналілі, паказвалі знак "перамога", фактычна ўсё як у Беларусі два гады таму. Тыя, хто вяртаўся ў Беларусь, рэагавалі асцярожна, хавалі вочы і падтрымку дэманстравалі цішком.

radiounet.fm

# У Вільні адкрылася крама беларускай сімволікі




4 снежня ў Вільні ўрачыста адкрылі краму беларускай сімволікі ад друкарні A2.print.

Крама ці, як пяшчотна называюць яе самі ўладальнікі, "крамачка", размешчана ў невялічкім скляпенні ў самым цэнтры літоўскай сталіцы, на вуліцы Pilies, 6, літаральна за два крокі ад кафедральнай плошчы.

Па старым адрасе, у спальным раёне Пашылайчай, застаецца вытворчасць тавараў, якія цяпер будуць прадавацца ў краме ў цэнтры – магнітаў, кубкаў, цішотак, світшотаў, шкарпэтак, торбаў і шмат чаго іншага з беларускай, а таксама ўкраінскай ды літоўскай сімволікай.

На адкрыццё з паветранымі шарамі, шампанскім ды прысмакамі прыйшлі некалькі дзясяткаў чалавек.

Яўген Ерчак, budzma.org

навіны

# ШТО РАБІЦЬ "ЭКСТРЭМІСТАМ" З ПАШПАРТАМ ГРАМАДЗЯНІНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ? ПАРАДЫ ЮРЫСТА

Пазбаўленне грамадзянства – не беларускае ноу-хау, камуністычны рэжым меў падобную практыку, кажа ў размове з Е*р*р*д** юрыст, які спецыялізуецца на справах уцекачоў, Алесь Міхалевіч.

– Напачатку Савецкі Саюз дазваляў чалавеку выехаць, напрыклад, на пісьменніцкую канферэнцыю, а пасля дасылаў тэлеграму аб тым, што яго савецкае грамадзянства анулявана. Францыя такім асобам спакойна давала статус бежанца, з якім яны маглі спакойна жыць і працаваць. Гэта не станавілася непераадольнай праблемай.

Мы запыталіся ў Міхалевіча, што рабіць, каб гэта не стала непераадольнай праблемай для беларусаў, над якімі навісла пагроза застацца людзьмі без грамадзянства.

**Падумайце пра міжнародную абарону**

Перш за ўсё трэба абзавесціся відам на жыхарства ці інакш легалізаваць свой побыт у той краіне, дзе цяпер знаходзіцеся.

– Калі Беларусь забярэ грамадзянства, трэба падумаць аб падачы на міжнародную абарону. І выкарыстоўваць сваю экстрэмісцкую справу, каб даказаць, што вы з'яўляецеся асобай, якой пагражае пераслед у сваёй краіне.

Бо гэтай справай фактычна будзе зафіксаваны факт праследу. Мы ўсе разумеем, што гэтыя экстрэмісцкія артыкулы сведчаць аб тым, што чалавек так ці інакш удзельнічаў у палітычным жыцці.

Міхалевіч зазначае, што важны момант у зме-



нах закона "Аб грамадзянстве" – абавязак дэклараваць грамадзянства іншай дзяржавы, наяўнасць віду на жыхарства ў іншай дзяржаве або іншыя дакументы, якія даюць прэферэнцыі за мяжой.

– Вядома, гаворка вядзецца пра "карту паляка". Думаю, афіцыйны Мінск будзе ўводзіць і адказнасць за недэклараванне гэтых дакументаў.

**Дзе бяспечней прачнуцца чалавекам без пашпарта?**

– У краіне з добрай прававой сістэмай. Перш за ўсё абірайце краіны ЕС і ўвогуле краіны Захаду ў шырокім разуменні – то-бок, напрыклад, ЗША, Канаду. Калі гэта немагчыма – іншыя краіны, такія як Грузія ці Малдова.

**Што рабіць з "ануляваным" пашпартам, калі яго тэрмін дзеяння яшчэ няскончаны?**

– Пакуль незразумела, ці будзе Беларусь падаваць гэтыя дакументы як "страчаныя" ці "нядзейсныя" ў базу Інтэрпола. Калі будзе – гэта праблема. А калі не, дык тэарэтычна чалавек зможа карыстацца сваім пашпартам да канца тэрміна дзеяння дакумента, і адпаведна працягваць з ім усе свае віды на жыхарства.

**Пазбаўленне грамадзянства – беларуская вынаходка?**

– У адпаведнасці з універсальным правам, з Міжнароднай дэкларацыяй правоў чалавека кожны мае права на "nationality" – гэтае паняцце ўключае ў сябе грамадзянства. І ні адзін чалавек не можа быць бясправна пазбаўлены гэтага права.

У дэмакратычных краінах бываюць выпадкі пазбаўлення грамадзянства. Але гаворка пра краіны, дзе ёсць забарона на двайное грамадзянства – а чалавек усё адно яго атрымлівае.

Але ў такіх выпадках чалавека не пазбаўляюць базавага права на грамадзянства, бо дэ-факта іншае грамадзянства ў яго ёсць. Дарэчы, Рэспубліка Беларусь не забараняе падвойнае грамадзянства – яна проста не прызнае падвойнае грамадзянства, а гэта розныя рэчы.

Гэта значыць, напрыклад, што консул іншай дзяржавы не будзе дапушчаны да чалавека, бо Рэспубліка Беларусь будзе лічыць яго толькі сваім грамадзянінам.

І толькі ў фашысцкіх ці камуністычных рэжымах у людзей забіралі грамадзянства проста так, прытым, што ніякага іншага грамадзянства ў іх не было.

novychas.online




# ДАКУМЕНТАЛІСТ АНДРЭЙ КУЦІЛА АТРЫМАЎ ГРАН-ПРЫ НА ФЕСТЫВАЛІ Ў ПОЛЬШЧЫ

Так быў ушанаваны фільм "Кветкі не маўчаць", які год таму быў прызнаны найлепшым дакументальным фільмам на Варшаўскім кінафестывалі. Цяпер узнагарода адбылася на фестывалі медыяў "Чалавек у небяспецы", які праводзіцца ў горадзе Лодзь, піша тэлеграм-канал "Свяшчэнны Белавуд".

Вось як сам аўтар пракаментаваў падзею ў фэйсбуку:

"Дзякуй яшчэ раз усім героям стужкі, усёй камандзе, усім, хто спрыяў і дапамагаў, асабліва мастацкаму кіраўніку Jacek Blawut, журы і гораду Лодзь. Увесь вечар журналісты і рэжысёры выказвалі толькі адно – спадзяванне, што праз год мы будзем размаўляць/здымаць не пра вайну ці дыктатуры, а пра змены, трансфармацыю і адбудову… Крыху наіўна, канешне, бо наступствы, траўмы – гэта на ўсё жыццё. Аднак здымаць пра гэта як пра „мінулае“ ўсе мы прагнем у мірны час".

"Кветкі не маўчаць" прысвечаны беларускім сем'ям, якія, нягледзячы на перажытыя траўмы 2020 года, спрабуюць жыць далей і займацца сваімі справамі.

Паводле budzma.org

# BROADWAYWORLD НАЗВАЎ СПЕКТАКЛЬ СВАБОДНАГА ТЭАТРА АДНЫМ З НАЙЛЕПШЫХ ЗА ГОД

Тэатральны крытык Аляксандр Коэн на партале broadwayworld.com зрабіў свой топ найлепшых спектакляў Вялікабрытаніі за 2022 год.

Кожны свой выбар крытык разгорнута растлумачыў. Вось як ён ахарактарызаваў спектакль "Сабакі Еўропы":

"Было вельмі жудасна назіраць, як прарочае бачанне расколатай Еўропы ад Беларускага Свабоднага тэатра ажывае ў сакавіку ўсяго праз некалькі дзён пасля ўварвання Пуціна ва Украіну. "Сабакі Еўропы" сваімі голымі акрываўленымі рукамі выразалі нутраную какафонію гартанных вобразаў, музыкі і паэзіі. Гаворка ішла не столькі пра гісторыю, якую ён расказваў, колькі пра нігілістычны свет, які яго акружаў: антыўтопія, якая прытулілася зусім блізка на гарызонце.

Праца Беларускага Свабоднага тэатра ўражвае. Андэграўндны тэатральны калектыў у выгнанні з роднай Беларусі, яны з'яўляюцца сапраўдным сведчаннем неабходнасці тэатра і мастацтва не толькі для таго, каб казаць праўду ўладзе, але і для таго, каб прымусіць нас, як гледачоў, глядзець у вочы рэчаіснасці ва ўсёй яе суровай змрочнасці".

Заснаваны на рамане Альгерда Бахарэвіча, спектакль "Сабакі Еўропы" – гэта фэнтэзі-палітычны трылер пра небяспеку адвесці позірк, калі ўкараняецца аўтарытарызм.

budzma.org



навіны

# ПОЛЬШЧА БУДЗЕ ПА-РАНЕЙШАМУ ПРЫЗНАВАЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ДАКУМЕНТЫ АБ АДУКАЦЫІ

Аб’яднаны пераходны кабінет паведаміў аб дасягненні дамоўленасці, што Польшча надалей будзе прызнаваць беларускія дыпломы аб адукацыі, нягледзячы на скасаванне рэжымам Лукашэнкі адпаведнага беларуска-польскага пагаднення.



Прадстаўнікі Кабінета Павел Латушка і Аліна Коўшык сустрэліся ў Варшаве з дзяржсакратаром Міністэрства адукацыі і навукі, паўнамоцным прадстаўніком урада Польшчы па пытаннях развіцця і міжнародных адносінаў у галіне адукацыі і навукі Томашам Жымкоўскім і дырэктарамі дэпартаментаў Міністэрства адукацыі і навукі Польшчы.

“Мы надалей будзем прызнаваць беларускія пасведчанні і дыпломы. Для нас пагадненне працягвае дзейнічаць”, – адказаў Томаш Жымкоўскі на прапанову прадстаўнікоў Кабінета праігнараваць рашэнне рэжыму Лукашэнкі аб скасаванні беларуска-польскага пагаднення аб узаемным прызнанні дыпломаў.

Таксама прадстаўнікі Кабінета абмеркавалі магчымасць сумеснага з польскімі ўладамі рашэння, якое б зрабіла апастылі ад беларускіх уладаў непатрэбнымі, а адсутнасць сертыфіката ЦТ не перашкаджала б пры паступленні ў Польшчы беларускім абітурыентам, калі яны не могуць яго атрымаць з-за рэпрэсій ці з іншых уважлівых прычын.

Дамоўлена, што пры станоўчым рашэнні польскіх уладаў, прадстаўнікі Аб’яднага пераходнага кабінета Беларусі разам з Міністэрствам адукацыі і навукі Польшчы сумесна распрацуюць адпаведныя інструкцыі ў гэтай справе.

Таксама падчас сустрэчы былі абмеркаваныя і іншыя важныя пытанні, якія датычацца праблем адукацыі і працы беларусаў, вымушаных пакінуць радзіму з-за палітычных рэпрэсій.

novychas.online

# У ВІЛЬНІ АДКРЫЛІ МУРАЛ З ПАРТРЭТАМ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

На афіцыйнае адкрыццё мурала, які намаляваны на фасадзе прагімназіі Сімона Даўкантаса, прыйшлі дзясяткі журналістаў і праваабаронцаў.




Мурал з партрэтам Алеся Бяляцкага з’явіўся на вуліцы Міндоўга, амаль насупраць амбасады Беларусі ў Літве.

На мерапрыемстве выступіла праваабаронца і зямлячка лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Алена Маслюкова.

– Гэта вельмі адкрыты і адданы сваёй справе чалавек, – сказала яна пра Алеся Бяляцкага. – Напэўна, шмат у чым дзякуючы яму, праваабаронча цэнтр “В*сн*” займаецца сваёй працай нават знаходзячыся ў выгнанні.

Магчыма таму, што мы ўяўляем вялікую пагрозу для палітычнага рэжыму Лукашэнкі: ён проста выганяе людзей з Беларусі. А мы сюды прыехалі на просьбу Алеся.

Мы хочам, каб Беларусь стала дэмакратычнай і свабоднай. (Плача). Мы будзем працягваць справу Алеся. Калі мы пачулі, што Нобелеўская прэмія міру прысуджана нашаму кіраўніку Алесю Бяляцкаму, першае, што я напісала ў фэйсбуку: “Светлагорск, ты павінен ганарыцца”.

І вось гэты мурал правільна было б найперш убачыць на школе і універсітэце, у якіх вучыўся Алесь, магчыма, на сценах у Мінску.

Мы, канечне, бязмерна ўдзячныя Літве і кожнаму літоўскаму грамадзяніну за тое, што яны змаглі зрабіць тое, што не змаглі зрабіць у Беларусі. Вялікі дзякуй, што ёсць гэты мурал, які будзе гаварыць кожнаму літоўцу, усім беларусам, якія тут знаходзяцца, і ўсім гасцям Вільнюса, што гэты чалавек ахвяраваў сваёй свабодай дзеля свабоды цэлага народа.

budzma.org паводле gazetaby.com

## Беларускі каляндар памятных дат на студзень 2022 года

**2 студзеня**
- 95 гадоў таму, у 1928-м, нарадзіўся Уладзімір Цвірка (да 1945 г. Вадзім Сурко), дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі, Бельгіі і Нямеччыне. Памёр у 1992-м.

**3 студзеня**
- 115 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Мікола Нікан, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Аўстраліі. Памёр у 1999-м.
- 85 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Мікалай Багародскі, гісторык.

**6 студзеня**
- 80 гадоў таму, у 1943-м, памёр Антон Неманцэвіч, уніяцкі дзеяч.
- 60 гадоў таму, у 1963-м, памёр Андрэй Александровіч, пісьменнік.

**7 студзеня**
Каляды (Раство Хрыстова) па праваслаўным (юльянскім) календары.

**8 студзеня**
- 80 гадоў таму, у 1943-м, памёр Янка Бабровіч, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.

**12 студзеня**
- 135 гадоў таму, у 1888-м, нарадзіўся Дамінік Аніська, ідэолаг хрысціянскага руху, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі. Памёр у 1971-м.

**13 студзеня**
- 430 гадоў таму, у 1593-м, памёр Сымон Будны, мысляр, друкар.

**14 студзеня**
- 130 гадоў таму, у 1893-м, нарадзілася Канстанцыя Буйло (па мужу Калечыц), паэтка. Памерла ў 1986-м.

**15 студзеня**
- 55 гадоў таму, у 1968-м, памёр Язэп Стаброўскі, археолаг.

**18 студзеня**
- 20 гадоў таму, у 2003-м, памёр Уладзімір Сіўко, паэт.

**21 студзеня**
- 205 гадоў таму, у 1818-м, нарадзіўся Адам Кіркор, гісторык. Памёр у 1886-м.
- 85 гадоў таму, у 1938-м, памёр Янка Туміловіч, паэт.
- 45 гадоў таму, у 1978-м, памёр Алесь Салавей (сапр. Альфрэд Радзюк, на эміграцыі Альберт Кадняк), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Аўстраліі.

**22 студзеня**
- 160 гадоў таму, у 1863-м, пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне.

**23 студзеня**
- 85 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Вацлаў Ластоўскі, палітычны дзеяч, гісторык, мовазнавец, літаратуразнавец.

**25 студзеня**
- 85 гадоў таму, у 1938-м, памёр Тамаш Грыб, палітычны дзеяч.

**26 студзеня**
- 105 гадоў таму, у 1918-м, памёр Антон Баранцэвіч, палявы камандзір паўстання 1863–1864 гг.

**28 студзеня**
- 75 гадоў таму, у 1948-м, у Буэнас-Айрэсе заснавана Згуртаванне Беларусаў у Аргенціне.

**29 студзеня**
- 145 гадоў таму, у 1878-м, нарадзіўся Уладзімір Самойла, філосаф. Забіты ў 1941-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 12 (247), снежань 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com